НАВІНЫ КНІГАРНІ

## У Алега Лойкі...

**выйшла з друку новая кніга паэзіі "Ушанаванне". Кнігу выдала Слонімская ўзбуйненая друкарня тыражом 500 паасобнікаў.**




Сюды ўвайшлі вершы, якія паэт напісаў у апошні час. А таксама "Жыровіцкая паэма", паэма "Посах душы" і драматызаваная паэма "Развітанне з Радзімай", прысвечаная Міхалу і Казіміру Агінскім.

## ... у Аляксея Якімовіча...




**у Слоніме свет пабачыла невялікая кніжка для дзяцей "Займальны алфавіт".**

Яе склалі казкі і гульні пісьменніка, а малюнкі да кніжкі намалявалі школьнікі нашага горада.

Кніга адрасуецца не толькі вучням малодшых класаў, але і настаўнікам, выхавацелям, бацькам - усім, хто хоча навучыць дзяцей грамаце.

## ... у Юркі Голуба

**Радзіма Юркі Голуба – Зэльвеншчына. Ён выдаў шэсць кніг паэзіі.**

А новую кнігу вершаў "Поруч з дажджом", якая з'явілася ў Мінску, склалі паэтычныя творы, прысвечаныя Бацькаўшчыне, яе людзям і роднай прыродзе.

Сяргей ЧЫГРЫН

# СУСТРЭЧА З АМЕРЫКАНСКІМ ГОСЦЕМ

**5 чэрвеня ў Слоніме ў офісе грамадскай арганізацыі "Воля да развіцця" адбылася сустрэча сяброў грамадскіх арганізацый з госцем з Вашынгтона (ЗША) Роджарам Патоцкім. Амерыканскі госць прадстаўляў фонд НЭТ, які падтрымлівае грамадзянскія ініцыятывы ва Усходняй Еўропе.**

На сустрэчу прыйшлі сябры слонімскай філіі Таварыства беларускай мовы разам са сваім старшынёй Таццянай Трафімчык, старшыня грамадскай маладзёжнай арганізацыі "Ветразь" Алесь Масюк, арганізатар музея "Беларускае мястэчка" Міхаіл Рылко, кіраўнік дзіцячага тэатра СШ №8 Таццяна Натарава, кіраўнік музея СШ №10 Іван Карповіч, кіраўнікі гурткоў пры падлеткавым клубе "Святліца", прадстаўнікі гродзенскай грамадскай арганізацыі "Ратуша" і іншыя.

Вера Куніцкая з мінскай арганізацыі "Міжнародныя кантакты" дапамагала паразумецца слонімцам з Роджарам Патоцкім.

Размову, якая цягнулася некалькі гадзін, пачаў кіраўнік "Волі да развіцця" Міхась Варанец. Ён пазнаёміў гасцей і расказаў пра дзейнасць сваёй арганізацыі і слонімскага рэсурснага цэнтра за апошнія гады. Затым прысутныя распавядалі пра сваю грамадскую і творчую дзейнасць. Так, напрыклад, Таццяна Трафімчык у сваім выступленні адзначыла, што сёння беларуская мова стала справай палітыкі, а беларусаў усё яшчэ "трэба будзіць да жыцця". Алесь Масюк назваў асноўнай цяжкасцю ў працы з моладдзю лерашкоды, якія чыняцца з боку мясцовых уладаў, калі нават знайсці памяшканне для правядзення семінару – праблема. Лідэр слонімскіх Свабодных прафсаюзаў Віталь Ешану назваў працу з выбаршчыкамі асноўным накірункам дзейнасці сяброў прафсаюзаў на сённяшні дзень. Пасля выступленняў кіраўнікоў гурткоў, маці дзяцей з гуртка "вырабы з прыроднага матэрыялу" Кацярына Лаўрэнцьева і Аксана Малышава выказалі пажаданне, каб пасля летніх канікул іх дзеці працягнулі навучанне ў гуртку...




*Падчас выступлення Таццяны Трафімчык*

Увогуле, усе мелі магчымасць выказацца і расказаць пра свае справы, праблемы і планы на будучае. І ў гэтым плане размова аказалася цікавай і карыснай, а амерыканскі госць, у сваю чаргу, мог пераканацца, што і ў Беларусі, у такім правінцыйным гарадку як Слонім, ёсць грамадска-актыўныя і таленавітыя людзі.

Мікола КАНАНОВІЧ

НАВІНЫ КНІГАРНІ

## Успаміны Хведара Нюнькі

**Летась у Вільні пабачыла свет кніга аднаго з беларускіх адраджэнцаў апошняй хвалі, старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве, нашага земляка Хведара Нюнькі "Мае ўспаміны".**

Хведар Нюнька нарадзіўся ў 1928 годзе на памежжы Мастоўскага і Шчучынскага раёнаў у вёсцы Алешавічы. Бацька Хведара Якуб падрабляў сталяркай. А праз год пасля нараджэння сына сям'я пераехала ў Масты, дзе на той час толькі пачала будавацца дыхтавая фабрыка. Уладальнік фабрыкі Канапацкі бясплатна выдзеліў Нюнькам пад забудову пляц. У хуткім часе Якуб разам з братам Язэпам пабудавалі дом. Бацька Хведара адчыніў краму. Тавары завозіліся з Гродна і Ліды, ад гандлю быў прыбытак.

Хведар Нюнька і цяпер помніць прозвішчы сяброў дзяцінства. А такія з іх як Сапір (Сябер), Чучва сустракаюцца ў Мастах і зараз.

Бацька меў левыя погляды. І гэта з часам сапсавала стасункі з уладамі. Узніклі праблемы. Крама абанкруцілася, і ў 1935 годзе Нюнькі пераязджаюць у Шчучын. Там бацька аднаўляе гандаль і нават павялічвае абарот. Ён вітае прыход бальшавікоў, хоць яны і сталіся прычынай яго чарговага абанкручвання.

Кніга цікавая дэтальнымі апісаннямі тагачасных падзей. Нюнька паведамляе, як хутка пасля "вызвалення" у крамах зніклі соль, запалкі, цукар, як за ўсім стаялі вялікія чэргі. Сам Хведар уступіў у піянеры. Злаўмыснікі пагражалі павесіць яго за той чырвоны гальштук.

Вайну 1941 года сям'я сустрэла ў Алешавічах. Ад вёскі напрасткі да Шчучына 8 кіламетраў, і Хведар бачыў, як над горадам стаяў дым ад пажараў, як немцы кінулі на мясцовы аэрадром некалькі бомбаў. Потым у небе з'явіўся савецкі самалёт-знішчальнік, а за ім гналіся тры нямецкія і абстрэльвалі з кулямётаў. Самалёт упаў. Немцы паляцелі далей, а савецкі лётчык вылез з самалёта і меў толькі разбіты твар. Ён пайшоў у маёнтак, дзе стаялі савецкія вайскоўцы, якія тым часам папярэдзілі людзей, што будуць узрываць склады са снарадамі. Людзі пайшлі ў лес, а салдаты падпалілі склады і падаліся на ўсход. Згарэў панскі маёнтак, згарэла амаль уся і вёска.

Хведар пайшоў у вёску Крышылкі, куды да сваякоў пераехала са Шчучына сям'я. Немцы з'явіліся праз тры дні.

Аўтар успамінаў дае характарыстыку акупацыйнаму рэжыму. Ён сведчыць аб адносінах немцаў да мясцовых жыдоў. Ім забаранялі хадзіць па тратуарах, на грудзях і плячах патрабавалі насіць шасцікутныя жоўтыя зоркі. Іх ганялі на працу паліцыянты, якія здзекаваліся над імі, збівалі. Пазней яўрэяў загналі ў гета, адкуль яны не мелі права выходзіць без дазволу. Хведар Нюнька на свае вочы бачыў пакаранне праз павешанне чатырох нявінных хлопцаў. Іх трупы родным дазволілі забраць толькі праз тры дні.

У час акупацыі ў бацькі таксама ўзнікалі праблемы і з нямецкімі ўладамі. Тады 15-гадовы Хведар ездзіў у Ліду да гебітс-камісара, каб атрымаць дазвол на пераезд у Вільню. Напрыканцы 1943 года пераезд адбыўся.

Далей Хведар Нюнька жыве, вучыцца і працуе ў розных мясцінах Літвы. І да гэтай пары ён шчыруе на ніве беларускасці і не забывае мясціны, дзе нарадзіўся.

Язэп ПАЛУБЯТКА




— Ну што, сабралася? — пераступіўшы парог хаты, спытала Зіну сяброўка і суседка Міхалчыха.

— Якія тут зборы, — цяжка ўздыхнула яна. — Можа праз пару дзён назад вярнуся, — сказала, не верачы ў свае словы.

— Ну і дурная будзеш, калі вернешся, — канстатавала Міхалчыха. — Ды і хто цябе тут глядзець будзе? Я кожны дзень не набегаюся. Гады не тыя, ды і праўнукаў няньчыць трэба. А Віцька ласкі не зробіць, калі цябе да смерці дагледзіць. Ты ж для яго, як маці родная. Павінен не тое, што куток цёплы даць, а на руках цябе насіць.

Пагаманіўшы яшчэ, Міхалчыха пайшла, а яна села на лаву ля акна і закружылася ў віхуры ўспамінаў.

... У тыя далёкія пасляваенныя гады ў іхняй вёсцы Замошша дзевак было, як стагоў у лузе. А жаніх якія? Пецька Сымонішын прыйшоў з вайны без рукі, Ванька Рысюк больш глядзеў у чарку, чым на дзевак. Астатнія — падлеткі, зелень. Вось таму Зіна і яе дзве сяброўкі Тоня (цяперашняя Міхалчыха) ды Каця Любаўка ўжо і не спадзяваліся выйсці замуж. Аднак лёс іхні быў шчодры на сюрпрызы.

Неяк пад восень у Замошша забрыў пячнік Міхалка. Адрамантаваў печ у адной хаце, у другой. А пасля суботнім вечарам стрыечны Тонін брат Кастусь прывёў Міхалку да яе ў сваты. Абодва былі ў добрым падпіцці, але гаварылі цвяроза і разважна.

— Вазьмі яго ў прымы, Тоня. Лепшага жаніха ты не дачакаешся, — лыпаючы бялёсымі вачыма, казаў Кастусь. — Стараваты, праўда, затое майстар на ўсе рукі і характар добры мае.

— Праўду кажа, — Міхалка апусціў галаву і круціў у вузлаватых пальцах кляновы лісток.

— Заўтра прыйдзеце, як цвярозыя будзеце, а цяпер мне спаць пара, — не вельмі гасцінна выправадзіла іх з хаты маладая гаспадыня. І як толькі тая за парог — пабегла на параду да Зіны.

— Ідзі, — коратка параіла яна. — Лепшага і, сапраўды, чакаць дарэмна.

З той пары ў Тоні выраслі і састарэлі дзеці, падняліся ўнукі. Цяпер вось праўнукі абляпілі яе нібы маладыя апенькі стары пень.

Каця Любаўка замуж не выйшла, але прыжыла сабе хлопчыка Віцьку. Рыжанькі, як месячык, ён быў адзінай уцехай не толькі для маці, але і для яе, Зіны. І таму, калі аднойчы ў жнівеньскі поўдзень Каця ўтапілася ў віраватай рэчцы Мянушцы, яна адразу забрала хлопчыка да сябе. Ад яе ён пайшоў у школу, у вучобу асабліва не ўлягаў, але меў добрую памяць, і навука давалася хлопцу лёгка.

Закончыў сямігодку. Параіўшыся з дырэктарам школы, Зіна адправіла яго ў мястэчка, каб атрымаў сярэднюю адукацыю.

У армію Віцьку не ўзялі па прычыне дрэннага зроку, і таму, закончыўшы інстытут, пайшоў працаваць. І як у ваду кануў... Ні пісьма ад яго, ні вестачкі. Колькі слёз выплакала Зіна ад трывогі і крыўды.

— Можа яму дзе дрэнна, а я нічога не ведаю, — са скрухай пытала яна ў Тоні.

— Каб дрэнна было, то аказаўся б, бервяно няўдзячнае, — са злосцю казала тая. — Знойдзем паршыўца, не гаруй. Мой малодшанькі ўнук якраз у той інстытут паступіў, дзе ён некалі вучыўся. Так што папросім Толіка, ён знойдзе.

Тоня казала праўду. Праз некаторы час Толік прыслаў пісьмо. Напісаў, што Віцька працуе інжынерам на заводзе ў Гомелі, ажаніўся, мае сваю кватэру.

— А я табе што казала! — падціснула губы сяброўка.

І гады, і цяжкая праца, і трывогі пакінулі свой след: баба Зіна пачала часта хварэць. Амаль усю мінулую восень праляжала ў бальніцы, але паратунку не было. Ад самага нязначнага руху моцна балела галава, цела напаўнялася свінцовым цяжарам. Прахварэўшы, яна не назапасіла на зіму дроў, пад снегам засталося некалькі радкоў бульбы.

— Едзь у Гомель да Віцькі, — параіла Міхалчыха.

— Каб я была там патрэбна, то хоць пісьмо напісаў бы, — са слязамі гаварыла Зіна. — А можа самой напісаць, папрасіцца да яго?

— Я напішу, — рашуча прамовіла Міхалчыха.

Адказ прыйшоў хутка, але было ў тым пісьме толькі адно слова: прыязджайце. Холадам павеяла ад гэтага слова, але адзінокай бабе Зіне выбіраць не прыходзілася. Паплакаўшы, яна пачала збірацца ў дарогу.

— Поезд на Гомель адыходзіць ноччу, — паведаміла ў чарговы прыход Міхалчыха. — Мой сын Антось цябе на станцыю завязе на легкавушцы. Ну, я яшчэ прыйду развітацца.

... Ужо даўно сцямнела на вуліцы, а яна ўсё сядзела, не запальваючы святла, і назаўсёды развітваючыся з усім, чым жыла дагэтуль. Па неверагоднай слабасці ва ўсім целе адчувала: добра ёй будзе ў Віцькі ці дрэнна, але ўсё ненадоўга. Назад яна ўжо не вернецца ніколі...

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

(Працяг. Пачатак у №27)

Аляксей Якімовіч




# Слова

фантастычна-містычнае апавяданне

**5.**

У хаце Івана сустрэла заплаканая жонка.

— Наш Паўлічак захварэў!

"Яшчэ гэтага мне не хапала," — падумаў Іван і запытаўся:

— Дзе ён?

— У спальні ляжыць.

**6.**

Паўліку сапраўды было кепска. Ён ляжаў на ложку, заплюшчыўшы вочы і раскінуўшы рукі.

Іван стаў на калені каля ложка і далонню памацаў сыну лоб. Ён быў гарачы, як агонь.

— Сыночак, я ж цябе да гэтага ні разу не біў. Сам не ведаю, чаму сёння паднялася рука на цябе. Няхай яна ў мяне адсохла б.

— Не кляні сам сябе, — папярэдзіла Марына.

Іван нагнуўся над сынам і абняў яго.

— У хуткую дапамогу пазвані.

— Ні адзін тэлефон у вёсцы не працуе. Зноў нейкая аварыя ў нас, — азвалася Марына.

Паўлік расплюшчыў сінія вочы, уважліва паглядзеў на бацьку і папрасіў:

— Татачка, раскажы мне верш, у якім Слова ўспамінаецца.

Іван азірнуўся.

— Марына, я не ведаю такога верша. Ты раскажы.

— І я не ведаю! — разгубілася жонка.

— Тата! — з болем у голасе прамовіў Паўлік і заплюшчыў вочы.

"Кепска мяне ў школе вучылі," — падумаў Іван і ўсклікнуў:

— Сыночак! Я ведаю верш, у якім Беларусь успамінаецца!

Паўлік паварушыўся і языком аблізнуў перасмяглыя вусны.

*Ты ж не згаснеш,*
*ясная заранначка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край.*
*Беларусь мая! Краіна-бранначка!*
*Ўстань, свабодны шлях сабе шукай,* — выразна вымаўляючы кожнае слова, прагаварыў Іван.

— Я да дзядзькі Сымона схаджу, каня папрашу. На возе завязеш Паўліка ў бальніцу, — падала голас Марына.

Іван кіўнуў галавою, ніжэй нахіліўшыся над сынам.

**7.**

Марына пайшла да Сымона, а хвілін праз пяць пачуўся зычны голас участковага Канстанціна Эдуардавіча Акунёва:

— Ні гаспадыні, ні гаспадара ў хаце няма! Усю маёмасць можна выносіць!

Іван на дыбачках выйшаў са спальні. Акунёў стаяў на калідоры, насупраць залы і нахабна ўсміхаўся.

Іван патрос растапыранаю пяцярнёю.

— Эдуардавіч, цішэй, калі ласка! Мой Паўлік моцна захварэў.

Участковы ўказальным пальцам пастукаў па скураной папцы.

— Мітрафанавіч, заява на цябе паступіла. Слова ў сябе хаваеш. "З вобыскам яго да мяне прыслалі," — здагадаўся Іван. Адчыніўшы дзверцы секцыі, ён дастаў адтуль бутэльку гарэлкі і працягнуў яе Акунёву.

— Вазьмі, Эдуардавіч. Выпіў бы з табою, але сына ў бальніцу павязу.

Участковы ўзяў бутэльку, схаваў у кішэню нагавіцаў і, адчыніўшы дзверы, выйшаў у сені.

— Мітрафанавіч, дзе Слова хаваеш? Пакажы, каб я не шукаў.

— Няма ў мяне Слова! Сын захварэў! Разумееш? — у адчаі прагаварыў Іван.

Участковы нахмурыў кусцістыя бровы і накіраваўся ў каморку.

Іван стаяў і моўчкі кусаў губы. Ну й Акунёў! Ну й службіст! І гарэлку ўзяў, і ў каморку палез, старыя лахманы там будзе варочаць. А нядаўна, калі па чарцы рабілі, абяцаў, што выручыць у цяжкую хвіліну.

У каморцы штосьці зазвінела.

— Знайшоў? — не стрываўшы, гукнуў Іван.

Акунёў нарэшце вылез з каморкі, абабіў пыл з нагавіцаў і спадылба зірнуў на Івана.

— Знайшоў? — са злосцю паўтарыў Іван.

— Глядзі ў мяне! — сказаў Акунёў і пайшоў, прытрымліваючы рукой бутэльку.

— Іван, я каня прыгнала! — данёсся з вуліцы голас Марыны.

**8.**

У прыёмны пакой бальніцы Іван прынёс Паўліка на руках. Маладзенькі лекар у вялікіх акулярах пацікавіўся ў Івана:

— Што з ім?

— Мой сынок! Папругай яго стукнуў! Да гэтага ні разу не біў, — прызнаўся Іван.

Лекар паказаў на кушэтку, што стаяла пры сцяне.

— Тут пакладзіце.

Іван асцярожна паклаў сына на кушэтку. Паўлік дыхаў цяжка, перарывіста.

Прысеўшы каля хлопчыка, лекар памераў ціск, расшпіліўшы кашулю, праверыў, як б'ецца сэрца.

— Жыць будзе? — запытаўся Іван.

— Канешне, будзе. Мы яго хутка на ногі паставім, — не падымаючы галавы, адказаў лекар.

*— Ты ж не згаснеш,*
*ясная заранначка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край,*
— трызнячы, прагаварыў Паўлік.

Лекар падняў галаву і са здзіўленнем паглядзеў на Івана.

— Верш Максіма Багдановіча?

— Так, — кіўнуў галавою Іван і, каўтнуўшы сліну, якая раптам набегла ў рот, неспадзявана для самога сябе закончыў:

*Беларусь мая! Краіна-бранначка!*
*Ўстань,*
*свабодны шлях сабе шукай.*

— Ого-о-о! — працяжна прамовіў лекар. — Багдановіч у нас забаронены.

Іван пераступіў з нагі на нагу.

— Мне з сынам застацца ці ісці?

— Пойдзеце, калі сына ў бальніцу аформім, — сказаў лекар.

**9.**

Абнадзеены маладым лекарам, Іван пад'язджаў да вёскі. Зараз ён міне невялікі лясок, і за павароткай з'явіцца родны Нарастаўічы, дзе яму някепска працавалася і някепска жылося. На падворку яго сустрэне Марына. Ён абніме яе і прытуліць да сябе. Няхай глядзяць людзі праз вокны, няхай немаведама што думаюць.

— Но, Гнеды! — нокнуў Іван, падганяючы каня.

З ляска, з пагорачка скаціўся чалавечы чэрап і лёг на дарозе.

— Тпру-у! — нацягнуў лейцы Іван, уважліва паглядзеўшы на дарогу.

Конь спыніўся, застрыг вушамі. А чэрап, падскокваючы, стаў набліжацца да воза.

Іван хацеў перахрысціцца, але рука не паднялася, як анямела.

— Падвязі-і! — вышчаліўся чэрап.

Гнеды застукаў капытамі, падымаючы пыл на дарозе.

З-за паваротткі паказаўся ўчастковы. Ён ехаў на веласіпедзе. Веласіпед віляў з боку ў бок. "Акунёў ужо апаражніў маю бутэлечку," — прамільгнула ў галаве ў Івана.

*Стенька Разин поднимает*
*Раскрасавицу княжну*
*И за борт её бросает*
*В набежавшую волну,* — гучна заспяваў Акунёў.

— Дырэктар, падвязі! — усё скаліўся чэрап.

"Ён з мяне здзекуецца," — здагадаўся Іван і сцёбнуў Гнедага ляйчынай па спіне.

— Но-о!

Перапалоханы конь панёсся, высока паднімаючы пярэднія ногі.

(Працяг у наступным нумары)

---

(Продолжение. Начало в №№ 17-25, 27)

# ЭТИ СТРАННЫЕ, СТРАННЫЕ НЕМЦЫ или ЗАПИСКИ ГАСТАРБАЙТЕРА

Да, странностей у них хватает. Интенсивное переселение туда "наших" происходит уже лет пятнадцать, но только в начале этого года правительство приняло ряд ограничений на въезд. Теперь запрещается принимать на ПМЖ людей, тесно связанных с коммунистической диктатурой (даже, если ты стопроцентный ариец). Сюда относятся партийные работники, сотрудники КГБ, МВД и т.п. Закрыт шлагбаум для бывших уголовников.

Позволительно задать вопрос: "А разве сразу не было ясно, что вор, он и в Африке вор?!" Или, что секретарь райкома коммунистической партии не такое уже ценное приобретение для Германии? Представляете, какая масса этих "троянских" коней перебралась на берега Рейна?!

Похоже, и сами хозяева начинают понимать, как опасно раскрывать нараспашку ворота страны.

Сталин ссылал отечественных немцев в глухие таёжные места или в безводные степи. Кто выжил после каторжного труда в Трудовой Армии, должен был вплоть до середины 50-х годов ежедневно отмечаться (иногда за десятки километров) в спец. комендатуре. Так что, основная масса аузидлеров — это сельские жители со всеми присущими им родимыми пятнами колхозной системы. После работы наш человек любит выпить, а после выпивки он хочет с друзьями исполнить "Из - за острова на стрежень...", идя, обнявшись, вдоль улицы.

И, как финал застолья — небольшая драчка с разбитыми носами. Вряд ли подобное поведение приезжих нравится спокойным и уравновешенным хозяевам.



*Сельский бассейн*

На первый взгляд может показаться, будто в немецких городах преобладают иностранцы. Бросаются в глаза многочисленные группы выходцев Афро-Азиатского региона, эмигрантов с территории бывшей Югославии. Все они чувствуют себя здесь уверенно и свободно, ходят с гордо поднятой головой.... В крупных городах иностранцы составляют 15 – 20%. Наши люди разительно отличаются от них не только внешним видом, но и отсутствием внутренней свободы, скованностью, даже какой-то робостью. Им понадобится ещё несколько лет, чтобы вести себя вот так раскованно и легко как негры, индийцы, албанцы, китайцы ....

Интеграции в Германии затрудняет выработанная при социализме пассивная жизненная позиция. Разочаровавшись в своих ожиданиях, некоторые приезжие изолируются от общества и пребывают в состоянии депрессии.

"Едер лебен унд штербен алайн" любит повторять герр Каспер — знакомый директор школы из Казахстана ("Каждый живёт и умирает в одиночку"). Молодым аузидлерам надо приложить немало сил, чтобы быстро освоить язык, учёбу и приспособиться к столь типичному для немцев индивидуализму. Те, кто не сумеет завести знакомства среди местных жителей, обречены жить в "гетто". С другой стороны, этот самый индивидуализм процветает давно и у нас. То, о чём поёт Анжелика Варум в песенке "Городок", как это ни грустно, уже кануло в прошлое. Мы можем жить годами на одной лестничной площадке и не знать имён, фамилий наших соседей, не говоря о более серьёзных вещах. Что это, если не проявление западного индивидуализма?

Милый нашему сердцу советский коллективизм сохранился, наверно, ещё кое-где в сельской местности. Поэтому, с другой стороны, сельским жителям тяжелее адаптироваться в Германии. Поэтому и "кучкуются" они только со своими "единоверцами". Кроме того, местные немцы не очень-то раскрывают объятия для вновь прибывших братьев по крови.

Существует много программ по адаптации приезжих, но процесс "вживания" в новую среду идёт очень медленно и растягивается на годы.

Первые шесть месяцев приезжие ходят в Народную школу на бесплатные языковые курсы (по шесть часов занятий ежедневно). Если кто-то захочет и дальше учиться, например, повышение квалификации, переквалификация и т. д, государство оплачивает и даёт стипендию.

Тяжелее тем, кому за 50. Обычно они получают социальное пособие (500 – 700 марок) и занимаются домашними делами. Никто им не запрещает где-нибудь подрабатывать. Таким людям государство оплачивает квартиру.

Дети и молодёжь привыкают достаточно быстро к незнакомой для них обстановке. Пяти-шестилетние русаки, родившиеся в Германии, не говорят уже по-русски. Конечно, многое здесь зависит от родителей. Одни из них считают, будто знание русского языка их детям не понадобится. Другие же, наоборот, не отказываются от языка бывшей Родины и в семьях говорят только по-русски.

Радуют глаз наши старички в Германии – бодрые, помолодевшие. Прекрасное жильё, хорошая пенсия, разнообразная и здоровая пища, добротная одежда... – о чём ещё мечтать людям в старости? Государство взяло на себя все заботы о них. Только отдыхай и внуков нянчь – вот и вся их работа. Не смогли, как следует, отдохнуть при колхозном социализме, так хоть при "загнивающем" империализме на старости лет по-настоящему отдохнут. Если какие-то проблемы со здоровьем – лучшие поликлиники к твоим услугам, вежливые и высококвалифицированные врачи, и – всё бесплатно! И никаких тебе очередей, никакой беготни по аптекам в поисках нужного лекарства, никому не нужно давать никаких "подарков"... Бесплатно лечат всех: работающих и безработных, пенсионеров, только из разных фондов это оплачивается. Как здесь не вспомнить одну из главных сказок советской пропаганды: "Если простой человек на Западе заболеет – это конец. Разорится, по миру пойдёт. Без денег никто его лечить не будет – ложись и помирай!"

**Иван ХОХОЛ**

**Продолжение следует.**

# У РЭШЦЕ РЭШТ ПЕРАМАГЛІ

## Камунальнік — Свіслач, 3 — 2

Слонім. 8 ліпеня. Стадыён "Дынама".
2 000 гледачоў.
Суддзя: Валерый Вялічка.
Камунальнік: С.Бекіш, А.Баль, В.Кірыленка, С.Чэпкі (М.Горбач), Д.Капельян, А.Цішчанка, Л.Варанцоў (В.Дзегіль), А.Дзегіль, А.Місюк, Д.Аначэнка, А.Вярбіцкі.
Галы: 2, 9, Вярбіцкі; 76, Місюк (Камунальнік); 81, Крот; 87, Нікітачкін (Свіслач).

Гэтаму матчу папярэднічала серыя з пяці паражэнняў "Камунальніка" з агульным лікам 2:9, але самыя верныя балельшчыкі слонімскага клуба ўсё ж такі запоўнілі стадыён "Дынама" амаль поўнасцю і ў выніку засталіся задаволены калі не гульнёй, то вынікам.

Цяжкае становішча з камплектаваннем каманды прымусіла трэнераў "Камунальніка" выпусціць у аснове на матч са "Свіслаччу" некалькі маладых футбалістаў. І, як аказалася, гульні яны не сапсавалі. Тым не менш, матч атрымаўся даволі нервовы, але і цікавы адначасова.

Хто ведае, чым бы ён скончыўся, калі б на першай хвіліне пасля памылкі нашых абаронцаў не прамахнуўся па варотах Бекіша нападаючы гасцей, але мяч прасвістаў вышэй перакладзіны. А затым ужо прыйшла чарга Алегу Вярбіцкаму прадэманстраваць усё сваё майстэрства. Вымушаны перапынак у дзве гульні пайшоў Алегу на карысць. І як вынік – два мячы-блізняты ў вароты "Свіслачы" пасля трапных удараў Вярбіцкага галавой на 3-й і 9-й хвілінах першага тайма. Асістыравалі яму добрымі пасамі Сяргей Чэпкі і Дзмітрый Капельян.

Увогуле, першая палова матчу засталася за слонімскімі футбалістамі.Яны больш атакавалі, добра камбінавалі ў сярэдзіне поля і мелі яшчэ некалькі магчымасцей да ўзяцця варотаў "Свіслачы". Напрыклад, сам на сам з варатаром гасцей выходзіў Дзіма Аначэнка. Ён цалкам сам зрабіў гэты выдатны момант, ды толькі прабіў па варотах саперніка занадта слаба.

Але і госці не збіраліся так проста, за здарова жывеш, аддаваць перамогу "Камунальніку". Разы са тры яны прабівалі па варотах Сяргея Бекіша, праўда, безвынікова. Першы тайм так і скончыўся з лікам 2:0 на табло стадыёна "Дынама".

Другая палова матчу атрымалася не падобнай на першую. Хаця пачатак яе зноў адзначылі атакі "Камунальніка", адна з якіх давяла лік да 3:0. На гэты раз вызначыўся Андрэй Місюк. Ён узяў гульню на сябе, зғуляў індывідуальна на падыходзе да штрафной пляцоўкі і дакладна прабіў, злавіўшы варатара "Свіслачы" на супрацьходзе.

Тры "сухіх" мячы зусім ужо не задавальнялі гасцей, і яны перайшлі на навал, які тым не менш прынёс свой плён. Высокія ігракі "Свіслачы" лёгка перайгравалі нашых абаронцаў, закідваючы мяч за іх спіны. Ды й па фізічных сваіх кандыцыях госці выглядалі лепш. Да таго ж слонімцы, відаць, канчаткова паверылі ў сваю перамогу і значна знізілі ўвагу да форвардаў асіповічцаў, што, магчыма, і дазволіла тым адыграць два мячы, скараціўшы перавагу гаспадароў поля да мінімуму. Адбылося гэта на 81-й і 87-й хвілінах гульні. Аднак большага зрабіць не ўдалося ніводнай з каманд. Канчатковы лік матчу – 3:2.

Перамога гэтая дазволіла "Камунальніку" узняцца на адну прыступку ў турнірнай табліцы, але не вырашыла праблемы каманды. І, перш за ўсё, гэта – узмацненне асноўнага складу. Ды й футбольнае поле ў Слоніме не дазваляе якасна праводзіць трэніровачны працэс, не дазваляе расці майстэрству маладых слонімскіх ігракоў. Тым не менш, кіраўніцтва клуба поўнасцю давярае галоўнаму трэнеру, верыць у перспектыўных мясцовых футбалістаў. А галоўнае, у каманды ёсць жаданне іграць і перамагаць на самых розных узроўнях.

Наступны матч слонімскі "Камунальнік" праводзіць дома супраць мастоўскага "Нёмана". Пажадаем слонімцам добрай гульні ў нядзелю, 15 ліпеня.



Цяжка ў барацьбе з Алегам Вярбіцкім варатару "Свіслачы".

Фота Віталя Гіля



Да варотаў гасцей рвецца Андрэй Місюк.

Фота Віталя Гіля

**Вынікі матчаў 13-га тура:**

| | |
|---|---|
| Нёман — Орша, | 1-0 |
| Рагачоў-ДЮСШ-1 — Дарыда, | 0-1 |
| Тарпеда — Граніт, | 3-1 |
| Керамік — Тарпеда-Кадзіна, | 0-0 |
| Дынама-Юні — Хімік, | 1-1 |
| Зорка-ВА-БДУ — ЗЛіН, | 1-1 |

**4.07. Матч 8-га тура**

| | |
|---|---|
| Свіслач — Дынама-Юні, | 2-1 |

## Турнірная табліца пасля 13-га тура

| | | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Дарыда | 12 | 9 | 3 | 0 | 30 | 23-6 |
| 2. | Хімік | 13 | 8 | 3 | 2 | 27 | 25-10 |
| 3. | Тарпеда | 12 | 8 | 2 | 2 | 26 | 19-7 |
| 4. | Тарпеда-Кадзіна | 13 | 7 | 2 | 4 | 23 | 13-11 |
| 5. | Зорка-ВА-БДУ | 12 | 6 | 4 | 2 | 22 | 25-9 |
| 6. | Ліда | 12 | 5 | 4 | 3 | 19 | 16-10 |
| 7. | Керамік | 12 | 5 | 3 | 4 | 18 | 13-12 |
| 8. | Граніт | 12 | 5 | 2 | 5 | 17 | 21-13 |
| 9. | Орша | 12 | 5 | 1 | 6 | 16 | 16-17 |
| 10. | Камунальнік | 12 | 4 | 1 | 7 | 13 | 13-17 |
| 11. | ЗЛіН | 12 | 3 | 3 | 6 | 12 | 13-17 |
| 12. | Свіслач | 12 | 3 | 1 | 8 | 10 | 11-27 |
| 13. | Дынама-Юні | 12 | 2 | 3 | 7 | 9 | 10-20 |
| 14. | Нёман | 12 | 2 | 2 | 8 | 8 | 9-24 |
| 15. | Рагачоў-ДЮСШ-1 | 12 | 0 | 4 | 8 | 4 | 9-36 |

## Белорусы остаются в Киеве

**Всего две с половиной недели длилась межсезонная пауза на Украине, и вот уже стартовал очередной чемпионат в высшей лиге.**

Чемпион, киевское "Динамо", в первом матче встречался с дебютантом чемпионата, командой "Полиграфтехника" из Александрии, и не оставил от новичков камня на камне – 5:0.

"Дублем" в этой игре отметился Валентин Белькевич. Весь матч на поле провел и Александр Хацкевич. Хотя сроки контрактов белорусских легионеров с "Динамо" (Киев) и истекли 1 июля, но Белькевич и Хацкевич решили остаться в команде Валерия Лобановского еще на полгода.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

## Турслет четырех команд

**После семилетнего перерыва в Слониме вновь провели туристический слет команд рабочей молодежи. Прошел он в деревне Низы, и участие в нем приняли четыре команды: водоканала, мясокомбината, винзавода и горисполкома.**

Программа соревнований включала туристическое многоборье, в котором победила команда горисполкома, турнир по мини-футболу (выиграли работники мясокомбината). Также проводились конкурсы на лучший бивуак и лучшее блюдо. Первенствовали здесь туристы водоканала и винзавода соответственно.

В исполнении песни отличились ребята из водоканала. А абсолютного победителя на турслете не выявляли, потому что в выигрыше остались все без исключения. Да и что может быть лучше активного отдыха на природе в кругу друзей.

Руководство предприятий, выставивших на турслет свои команды, серьезно подошло к организации и проведению слета. Их заинтересованность в развитии туризма в городе позволяет надеяться на то, что в следующем году турслет соберет больше команд. И, возможно, приедут к нам в Слоним гости из других городов республики.

## "Динамо" на взлете

**Кубок Интертото. 2-й раунд. Хапоэль (Хайфа, Израиль) — Динамо (Минск), 0-1**

В ответном матче, после убедительной победы дома (2:0), для белорусского клуба сложностей с прохождением в следующий этап розыгрыша не предвиделось.

Так все и вышло. Бронзовый призер чемпионата Израиля не доставил особых хлопот динамовцам Минска, которые обыграли "Хапоэль" и в гостях. На этот раз со счетом 0:1. Гол в ворота хозяев поля забил Петр Качуро на 17-й минуте матча.

Теперь в третьем раунде Кубка Интертото белорусов ожидает поединок с германским "Вольфсбургом". Как отметил тренер минчан Александр Пискарев, "помериться силами с клубом бундеслиги будет интересно."

## "Неман-Белкард" в тройке лидеров

**Победа с крупным счетом на выезде в 12-ом туре высшей лиги белорусского чемпионата вывела гродненский "Неман-Белкард" на третье место в турнирной таблице.**

На этот раз перед натиском футболистов из города над Неманом не устояла команда Людаса Румбутиса "Молодечно-2000" – 3:0. К середине чемпионата гродненцы имеют блестящие перспективы на один из комплектов медалей.

## Снайперы першай лігі

**Сваю завочную спрэчку ў першай лізе беларускага футбольнага чэмпіянату вядуць бамбардзіры каманд.**

Пасля згуляных 13-ці тураў лідыруе А.Кузьмянок (Дарыда) – 10 галоў. Адразу за ім ідуць М.Сухавееў (Зорка-ВА-БДУ) – 9 галоў, Ю.Малееў і С.Шэўчык (абодва – Тарпеда) – па 6.

Лепшы са слонімцаў, Алег Вярбіцкі, засмучаў сапернікаў 4 разы. 3 галы забіў Леанід Варанцоў, па 2 – Дзмітрый Аначэнка і Мікалай Мажэйка. І яшчэ адзін мяч на рахунку Андрэя Місюка.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

# анекдоты

В кафе "Элефант" вошел Штирлиц.

- Это Штирлиц, сейчас будет драка, - сказал один из посетителей.

Штирлиц выпил чашечку кофе и вышел.

- Нет, это не Штирлиц, - возразил второй посетитель.

- Нет, Штирлиц! - и тут началась драка.

В шотландской деревушке висело объявление: "Один из наших самых уважаемых прихожан, Ангус Мак-Форлан, покинул землю сегодня утром в 10 часов 45 минут и отправился в рай".

Вечером кто-то добавил: "Рай. 19 часов. Крайне взволнованы. Ангус Мак-Форлан еще не прибыл".

Муж спрашивает жену:

- Что тебе подарить на день рождения?

- Дорогой, я даже и не знаю...

- Хорошо, даю на размышление еще год.

Мужчина в браке подобен мухе, севшей на липкую бумагу: и сладко, и скучно, и улететь нельзя...

Муж и жена смотрят бокс. Муж вздыхает:

- Я разочарован. Все заканчивается за 4 минуты.

Жена ему:

- Великолепно. Теперь ты меня понимаешь.

Жена - мужу:

- Вась, тут ко мне мама опять летом собирается в гости... Нужно бы приютить...

Муж, злобно:

- Да сколько же можно ЮТИТЬ ТВОЮ МАТЬ!

Утром жена говорит мужу:

- Вася, ты сегодня ночью во сне разговаривал и очень оскорбительно отзывался о моей маме.

- Да я сегодня ночью вообще не спал!!!

Министерство обороны объявило создание военной пирамиды: каждый, кто приведет с собой в военкомат еще трех "клиентов", освобождается от службы в армии.

Профессор внезапно возвращается домой из командировки и .... застает в своей постели жену и своего коллегу.

- И что ты как интеллигентный человек можешь мне сказать?! - в гневе восклицает профессор.

- Как интеллигент - интеллигенту? - уточняет коллега.

- Естественно!

- Стучаться надо!

Мама - сыну школьнику:

- Ты что думаешь, если выпил водки с пивом, я не учую, что ты курил?

## ОТВЕТЫ НА сканворд (№213)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | О | Л | Ю | С | | К | | К | |
| Е | | О | | У | Н | И | С | О | Н |
| Т | О | Т | Е | М | | Р | | М | |
| И | | О | | К | Р | А | Т | Е | Р |
| Т | А | К | С | А | | С | | Т | |
| | Г | | Т | | Ш | А | Б | А | Ш |
| Р | О | К | А | Д | А | | И | | К |
| | Н | | К | | М | Е | С | С | А |
| Ц | И | Т | А | Т | А | | Е | | Л |
| | Я | | Н | | Н | О | Р | М | А |

фотаконкурс ● фотаконкурс ● фотаконкурс ● фотаконкурс ● фотаконкурс

## "ПЛЯЖ — РАЙСКІ АДПАЧЫНАК"



*Мінулым летам мы адпачывалі на Кахоўскім вадасховішчы, што на Украіне. Там і зрабілі гэты здымак, які дасылаю на конкурс "Пляж — райскі адпачынак".*

**Фота Марыны САКАЛОЎСКАЙ (г.Слонім)**

# кроссворд

составила надежда пугаева



### По вертикали

1. Клоун, народный артист СССР. 2. Покойницкая. 3. Учёный, проводивший исследования в 20-х – 30-х годах в БГУ при заболеваниях нервной системы. 4. Участник боя быков. 5. Дерево или кустарник семейства вязовых . 6. Медленный темп в музыкальном произведении. 7. Мужское русское имя. 8. Пищевой рыбный продукт. 9. Проявление чего- либо. 12. Заразные болезни, которыми болеют животные. 14. Орган печати, который выражает точку зрения правительства. 15. Духовой деревянный музыкальный инструмент. 16. Хищное животное семейства кошачьих. 18. Указатель в сложных словах на отношение данных слов к земледелию. 20. Травянистое растение семейства злаковых. 21. Страна сказочных чудес. 22. Участница партизанского движения около Витебска 1941–1943 г.г. 23. Командир 5-го партизанского отряда, действовавшего в Шкловском, Белыничском р-нах Белоруссии. 25. Спортсмен в возрасте 18-20 лет. 28. Празднества в честь бога вина и веселья Диониса в древней Греции. 33. Великий математик древней Греции. 34. Большой подъем чувств. 36. Французский математик, ученый. 38. Организм, который существует при наличии свободного кислорода. 41. Солдат горнострелковых частей. 42. Вторая буква греческого алфавита. 47. Сочетание нескольких музыкальных инструментов. 48. Род хищных птиц семейства ястребиных. 49. Название талера, который был сырьем для изготовления русских серебряных монет. 51. Потомок европейских завоевателей в Латинской Америке. 52. Старинный французский танец. 53. Соразмерное чередование каких-либо элементов. 54. Домашнее животное. 55. Предмет, используемый для шитья. 56. Листопадное дерево.

### По горизонтали.

1. Мастер по изготовлению валенок в Сибири и на Урале. 6. Одухотворение сил и явлений природы. 10. Участник совместной игры. 11. Лицо, утратившее право в одном государстве и не приобретшее в другом. 12. Ученый, сделавший большой вклад в изучение минеральных ресурсов в Белоруссии в довоенные годы. 13. Башмаки из дерева. 15. Наука о болезнях растений и мерах профилактики. 17. Млекопитающее семейства хомякообразных. 19. Спортивная игра. 21. Отступление от главной темы. 24. Нулевое очко. 25. Китайский философ. 26. Светильник, прикрепленный к стене. 27. Вид транспорта. 29. Часть музыкального произведения. 30. Река, правый приток Западной Двины. 31. Многолетний плавучий морской лед. 32. Экваториальное созвездие. 35. Торжественный званый вечер. 37. Предтоннельная выемка. 39. Электрически заряженная частица. 40. Расстояние между одноосными колесами транспортного средства. 42. Вид письменного стола. 43. Председатель контрольной комиссии, который отчитывался на 4-ом съезде БП(б) в 1921г. в Минске. 44. Почетное название мастеров шахматной и шашечной игры. 45. Генерал 3-ей Гвардии танковой армии, участвовавший в Курской битве и в 1943г. вышедший на территорию Белоруссии. 46. Производственное объединение в Гомеле для проведения геологических работ. 50. Род кустарников, семейство бобовых. 52. Ударный музыкальный инструмент. 57. Рабочий поселок в Осиповическом р-не на р. Березина. 58. Областной город в Белоруссии. 59. Кредитное учреждение, ссужающее деньги под залог движимого имущества. 60. Музыкальный инструмент.

# ГОРОСКОП от www.ignio.com НА НЕДЕЛЮ

**ОВЕН**

Может быть, Вы запланировали на этой неделе путешествие, тогда имейте в виду - начало недели - самое удачное время для его начала. У некоторых представителей Вашего знака начался отпуск. Если Вы предпочли активный отдых, то это только пойдет на пользу Вашему здоровью. Для тех же, у кого обычная рабочая неделя, девиз - сохранять душевное равновесие, неделя может быть напряженной и эмоционально неуравновешенной. Возможны неприятные контакты и звонки. В среду вероятны недоразумения, поэтому в этот день лучше не планировать ничего серьезного. Пятница великолепна для начала ремонта, а также для начала дальних поездок.

**ТЕЛЕЦ**

Чтобы избежать возможных неприятностей, Вам необходимо стараться быть собранным и уравновешенным. Благоприятное время для самообразования. Постарайтесь не попадаться на удочку авантюрных проектов, ничего, кроме разочарования и огорчения они Вам не принесут. Если Вы окажетесь в тупиковой ситуации, когда не видите выхода из сложившегося положения, то смело можете рассчитывать на помощь друзей. Начиная с четверга, ситуация изменится в лучшую сторону с условием, что Вы не будете проявлять чрезмерную болтливость. Ищите новых деловых партнеров и союзников. Нежелательно провоцировать конфликты дома, несмотря на усталость.

**БЛИЗНЕЦЫ**

Возможна прекрасная, яркая, насыщенная неделя. У Вас будет практически все получаться. Однако в среду Ваши деловые партнеры могут воспользоваться Вашей эмоциональностью и спровоцировать конфликтную ситуацию, выйти из которой победителем будет куда как непросто. Некоторые из важных дел Вам необходимо завершить на этой неделе. Могут быть благоприятны личные поездки. Лучше посвятить неделю отдыху, тогда многие Ваши идеи воплотятся в жизнь. Во вторник Ваша инициатива может встретить серьезное сопротивление со стороны начальства.

**РАК**

Прекрасная неделя для раскрытия творческого потенциала, воплощения в жизнь новых идей. Эмоции стабилизируются и улягутся. Неделя полна конструктивных встреч и предложений. Придется иногда заниматься однообразными, но необходимыми делами. Постарайтесь продумать и осмыслить Ваше отношение к выполняемому делу. Хорошее время для начала дальних поездок, особенно во вторник, приятных круизов и санаторного лечения. Многие представители Вашего знака уже начали вкушать блаженные дары отпуска. По отношению к близким придется ослабить свою требовательность, она может спровоцировать конфликты.

**ЛЕВ**

Если Вы в отпуске, то самое время наслаждаться жизненными радостями. Но и к тем львам, чей отпуск еще не наступил, фортуна будет благосклонна. Вероятен успех на службе, которого Вы совсем не ожидали. В деловых контактах с партнерами проявите осторожность, вероятен обман, особенно в понедельник. Будьте внимательны при работе с бумагами, договорами, при заключении сделок. В пятницу и субботу общение с деловыми партнерами может принести желаемый успех. Построже относитесь к шалостям детей, т.к. они могут закончиться весьма печально.

**ДЕВА**

На этой неделе Вам необходимо быть собранным, аккуратным, и проявлять терпение во многих делах. Тогда окружающие смогут по достоинству оценить Ваши творческие замыслы и порывы. Внимательно относитесь к нюансам и мелочам, которые будут возникать в течение всей недели. Проявите больше самостоятельности в делах и свободы в творчестве. Хорошее время для защиты своих идей и достижений. Не отказывайтесь, если Вам предложат деловую поездку, а вот с личной поездкой лучше пока повременить. В среду старайтесь держать под контролем эмоциональные импульсы. Возможны конфликты с близкими.

**ВЕСЫ**

Хорошая, весьма удачная для Вас неделя. Энергия будет переполнять Вас, все получается, спорится в руках. Идеи могут сыпаться из Вас, словно из рога изобилия; пусть даже не все из них будут сейчас реализованы, зато это принесет Вам моральное удовлетворение и уверенность в собственных силах и возможностях. Удачны дела, связанные с поездками, как заграничными, так и просто в другие города. Но если Вы твердо решили, что с понедельника начинается Ваш долгожданный отпуск, то на работу лучше не заглядывать, иначе он не начнется.

**СКОРПИОН**

Самое время серьезно отнестись к своей карьере. Неделя может быть достаточно беспокойной, полной не всегда приятных неожиданностей. Эмоциональная устойчивость может понизиться, а раздражительность может возрасти. Постарайтесь не показывать окружающим свою нетерпимость. Опасайтесь ввязываться в авантюрные истории, вероятность Вашего успеха в условиях большой неопределенности может оказаться достаточно низкой. Четверг хорошо посвятить самообразованию.

**СТРЕЛЕЦ**

Вам необходимо на этой неделе проявить дипломатичность и умение предвидеть ближайшее будущее по отношению к коллегам по работе. Однако в тоже время проявите настойчивость при отстаивании своих интересов. Рабочая обстановка в целом спокойная, что позволяет слегка расслабиться. А сейчас самое время начинать новые дела, которые были бы весьма успешными. Хорошо пройдут организационные мероприятия. Наконец-то Вы наведете порядок в бумагах, хорошо будет продвигаться работа с документами. Не взваливайте на свои плечи лишний груз.

**КОЗЕРОГ**

Свои планы и замыслы лучше сохранять в секрете, тогда будет больше шансов реализовать их. Подумайте о повышении Вашего профессионального уровня, курсы Вам не повредят. Вы можете смело идти на риск, вероятность достижения успеха достаточно велика. Вы будете успешны в публичных выступлениях и продуктивны в творческой работе. Однако некоторые организационные вопросы будут решаться с трудом. Пятница - это хороший день для того, чтобы устроиться на новую работу или справиться с накопившимися делами, которые Вы откладывали в долгий ящик.

**ВОДОЛЕЙ**

В профессиональной сфере могут быть разочарования. В течение недели вероятны перепады настроения, которые будут способствовать творческому кризису. Вам не без труда удастся претворить свои проекты в жизнь. В понедельник, во второй половине дня постарайтесь не начинать новых дел, лучше отдохните. Постарайтесь не идеализировать прошлое, встреча со старыми друзьями - это лишь дань воспоминаниям. Помните, что впереди Вас ждут судьбоносные встречи. В среду лучше не назначать важных переговоров, перенесите их на другой день.

**РЫБЫ**

Постарайтесь не поддаваться упадническому настроению. В делах желательно придерживаться традиционных точек зрения. На работе вероятны резкие изменения, однако, это не особо повлияет на результат Вашей деятельности. Возможно, если Вы проявите заинтересованность и активность, появится очень перспективный проект. Эта неделя может принести обновление некоторых партнерских отношений. Эта неделя может быть связана с конструктивными диалогами. Основные проблемы могут быть связаны с детьми и благоустройством квартиры.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
ЗАСНАВАЛЬНІК і ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР Віктар ВАЛАДАШЧУК
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Камсамольская, 8.
Тэлефоны: рэдакцыі ....................2-14-39
..........(017)210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39
E-MAIL: gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by ПЭЙДЖЭР: 8-22-730000 аб. 95196
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Рэдакцыя таксама не адказвае за змест рэкламы.
Падпісана да друку 11 ліпеня 2001г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная) 63646 (льготная)
НАКЛАД 10.700 экз. ЗАКАЗ № 2187
Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы
Аб'ём — тры друкаваныя аркушы